МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 4 (156)
красавік 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:



IN MEMORIAM

## СМУТКУЕМ З НАГОДЫ СМЕРЦІ АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА



Увечары 15 красавіка пайшоў у лепшы свет духоўны лідар беларускай эміграцыі, сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", айцец Аляксандр Надсан.

"Бог забраў да сябе нашага айца Аляксандра. Гэта здарылася а 22.20 у шпіталі Барнэта (Лондан), куды ён быў узяты на лячэнне ў выніку развіцця хваробы нырак. З восені мінулага года айцец цяжка хварэў. Яму было 88 гадоў. Вечная памяць", — паведаміў у сваім фэйсбуку лонданскі святар Сяргей Стасевіч.

Цырымонія развітання ў Лондане пачалася 28 красавіка ў царкве, дзе дзесяцігоддзі служыў Аляксандар Надсан, дзе ён кожную раніцу маліўся за Беларусь. Удзел у развітальнай цырымоніі бралі старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і Апостальскі візітатар для грэка-католікоў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Развітацца са святаром у царкву Святой Марыі ў Лондане прыйшлі больш за 100 чалавек — актывісты беларускай дыяспары, сябры Аляксандра Надсана. Адпяванне працягвалася каля дзвюх гадзінаў, яго праводзілі дзесяць святароў на чале з біскупам украінскай царквы. Падчас службы гаварылася, што айцец Надсан — светлы чалавек вялікай душы і памяць пра яго будзе назаўсёды ў тых, хто яго ведаў, і тых, каму ён дапамагаў.

Пахавалі айца Аляксандра Надсана на могілках святога Панкрата ў Лондане 29 красавіка. Там пахаваныя беларускі грэка-каталіцкі біскуп Чэслаў Сіповіч, архімандрыт Леў Гарошка, айцец Язэп Германовіч, айцец Тамаш Падзява, айцец Фелікс Журня, айцец Кастусь Маскалік, іншыя беларускія дзеячы.

Таксама памінальную імшу правялі 29 красавіка ў Мінску ў касцёле Св.Сымона і Алены.

***Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" смуткуе з гэтай вялікай для беларускага народа страты і выказвае глыбокія спачуванні блізкім і сябрам айца Аляксандра. Рай светлы яго душы! Памяць пра гэтага слыннага Беларуса будзе жыць у нашых сэрцах!***

# БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА АЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ

*Прапануем працяг агляду, як беларусы замежжа сёлета святкавалі Дзень Волі.*

**Атава**

Сёлетняе святкаванне Дня Волі прыпала на 26 красавіка. Пасля адкрыцця ўрачыстага паседжання і віншаванняў Пётры Мурзёнка, старшыні Атаўскага аддзела Згуртавання беларусаў Канады (ЗБК), прысутныя хвілінай маўчання памянулі пацярпелых ад Чарнобыльскай аварыі. Далей, у адпаведнасці з праграмай, Малітву за Беларусь правёў Святаслаў Логін, Архіепіскап Наваградскі, Першаіерарх Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы. З прамовай, прысвечанай 97-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі, выступіла Івонка Сурвілла, старшыня Рады БНР. Прывітальныя словы ад Галоўнай управы ЗБК, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Беларуска-амерыканскага задзіночання, ад айца Акаловіча прадставіў старшыня ЗБК, сп. Дзмітрый Эльяшэвіч. Урачыстая частка скончылася дакладам Пётры Мурзёнка "Беларуская Народная Рэспубліка. Пачатак, 1917-1918". Таксама прысутныя напісалі традыцыйную беларускую дыктоўку. А завяршылася мерапрыемства выступам фальклорнага гурта з Таронта "Яваровы людзі" (кіраўнік — Віялета Кавалёва) і супольнымі беларускімі танцамі. У святкаванні Дня Волі ўзяло ўдзел каля 60 асобаў.

*Паводле Пётры Мурзёнка*

**Трыгарад**

28 сакавіка ў Трыгарадзе (Гданьску і Сопаце) Беларускае таварыства "Хатка" зладзіла святкаванне Дня Волі.

На Гарнізонным могільніку ў Гданьску адбылося ўскладанне кветак на магілы Сэрафіны і Лукаша Дзекуць-Малееў ды Козьмы Чурылы. Затым удзельнікі акцыі накіраваліся на вуліцу Янкі Купалы ў Гданьску-Аліве, каб ушанаваць памяць беларускага песняра, паклаўшы кветкі да каменя, названага ў яго гонар.

А ўвечары ў Сопаце на сядзібе таварыства "Хатка" адбылася сустрэча з Аннай і Чэславам Мекінымі, героямі кнігі Анны Сабецкай "Kalejdoskop". Сустрэчу вяла Лена Глагоўская. Яна зачытала віншаванні ад Прэзідыума Рады БНР і яе старшыні Івонкі Сурвілла, МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", Галоўнай управы БАЗА (Нью-Ёрк) ды ад Мацея Канапацкага, які цяпер знаходзіцца ў доме апекі.

**Рыга**

Свята 97-х угодкаў абвяшчэння незалежнай дэмакратычнай Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі мясцовыя беларусы ў Рызе 21 сакавіка, у суботу, бо на 25 сакавіка сёлета прыпаў працоўны дзень. Імпрэза адбылася ў будынку Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч.

Свята дзяржаўнасці беларусаў Латвійскім таварыствам беларускай культуры "Сьвітанак" і Аб'яднаннем мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" адзначаецца штогод з першых дзён іх заснавання. Аб значэнні той падзеі і самога свята, якія сёння спрыяюць інтэграцыі беларусаў Латвіі ў незалежнай дэмакратычнай Латвійскай Рэспубліцы, захаванню сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці праз любоў да роднай мовы, павагу да гісторыі і традыцый беларусаў 1920-1930-х гадоў, шмат гаварылася на гэтай сустрэчы.

Можна толькі здзіўляцца вялікай працы, якую зрабілі беларусы тых часоў на ніве беларускай асветы і культуры, а гэта дзейнасць розных культурна-асветных беларускіх арганізацый, якія былі кансалідаваныя і аб'яднаныя адной ідэяй – любоўю да Бацькаўшчыны, да беларушчыны. Менавіта дзякуючы ім былі заснаваны ў Латвіі больш за пяцьдзясят беларускіх школ і гімназій, беларускі тэатр, беларускі хор, Беларускае выдавецтва, выданне беларускіх газет, часопісаў і кніг. Усяго гэтага, на жаль, сёння вельмі не хапае беларусам Латвіі. Канечне, змяніўся час, змянілася сітуацыя ў дзяржавах у параўнанні з тымі далёкімі часамі. Тым не менш, жыве беларускі дух у Латвіі, ёсць свая школа, на розных фестывалях і выставах гучыць беларуская мова, а такое свята якраз нагадвае ўсім пра нашу спадчыну, пра беларусаў і пра тое, што беларусы – гэта нацыя, у якой ёсць свая родная мова, гісторыя, культура і свая незалежная дзяржава, адроджаная ў 1991 годзе на ідэалах БНР.

*Паводле Вячкі Целеша*

## БЕЛАРУСЫ ЎСКЛАЛІ КВЕТКІ ДА ПОМНІКА ЛІКВІДАТАРАМ У КІЕВЕ



Прадстаўнікі беларускае дыяспары ў Кіеве ўсклалі кветкі да помніка героям-ліквідатарам аварыі на ЧАЭС, які месціцца каля праваслаўнага храма на праспекце Міру.

*"Радыё Свабода"*

## БОЛЬШ ЗА 400 ЧАЛАВЕК УЗЯЛІ ЎДЗЕЛ У "ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ШЛЯХУ" Ў МІНСКУ

Прыкладна 400 чалавек узялі ўдзел у "Чарнобыльскім шляху" — акцыі ў памяць аб аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

"Чарнобыльскі шлях — 2015" прайшоў ад кінатэатра "Кастрычнік" да царквы ў гонар іконы Божай Маці "Спатоленне загінулых" каля парку Дружбы Народаў. Удзельнікі шэсця ўсклалі кветкі і запалілі свечкі каля памятнага знака "Ахвярам Чарнобыля", што каля храма. Акцыя доўжылася з 14.00 да 16.00.

Асноўным стаў лозунг: "Не — расійскай ядзернай пагрозе!"

*БелаПАН*

## БЕЛАРУСКАЯ КНІГА Ў КІЕВЕ

На кніжнай выставе "Кніжны Арсенал", якая прайшла 22-26 красавіка ў Кіеве, быў прадстаўлены беларускі стэнд, прэзентаваны ініцыятывай Books from Belarus. Тут можна было пабачыць кнігі айчынных выдавецтваў ды англамоўны каталог "Кнігі з Беларусі", наведаць беларускія літаратурныя імпрэзы.

"Books from Belarus" – гэта супольная ініцыятыва незалежных выдаўцоў Беларусі, сярод якіх Саюз беларускіх пісьменнікаў, 34mag.net і Літаратурны Дом "Логвінаў". Мэта кампаніі – прасоўванне айчыннай літаратуры на сусветным кніжным рынку, наладжванне сувязяў і камунікацыі з літаратурнымі агентамі ды выдаўцамі з іншых краін, фармаванне інтэлектуальнага іміджу Беларусі за мяжой. Летась праект "Books from Belarus" узяў удзел у Франкфурцкім і Варшаўскім кніжных кірмашах.

*Паводле lit-bel.org*

## БЕЛАРУСЫ ШВЕЦЫІ ПАСТАВІЛІ "ТУТЭЙШЫХ" З УДЗЕЛАМ СТЭФАНА ЭРЫКСАНА




У Стакгольме 12 красавіка тэатральны гурток беларускай дыяспары паставіў урывак з п'есы "Тутэйшыя" Янкі Купалы. Каардынатарам ініцыятывы выступіла Галіна Краснянская — адна з заснавальніц афіцыйнай суполкі дыяспары. Муж Галіны падрыхтаваў асноўныя дэкарацыі для пастаноўкі.

Першапачаткова меркавалася паставіць п'есу цалкам, але пазней вырашылі выкарыстаць пяць найбольш цікавых сцэнаў – фрагменты, якія паказваюць змены ўплываў Захаду і Усходу на Беларусь, а таксама прыстасаванства асобных беларусаў.

Прэм'еру спектакля ладзілі ў раёне Грондаль на захадзе Стакгольма. Мікіту Зносака сыграў Сяргей Андросенка, Янку Здольніка — Юры Кажура (старшыня Рады Згуртавання Беларусаў Швецыі), Аленку — Вольга Лёвіна, даму (мяшчанку) — Ганна Ціханава, маці Мікіты — Галіна Краснянская. Ролю прафесара Спічыні, правобразам якога быў заснавальнік і першы рэктар БДУ Уладзімір Пічэта, выконваў прафесар аднаго са стакгольмскіх універсітэтаў, гісторык Андрэй Катлярчук. На ролю заходняга вучонага запрасілі Стэфана Эрыксана, былога амбасадара Швецыі ў Беларусі, які з'яўляецца актыўным аматарам беларускай літаратуры, культуры, перакладчыкам мастацкіх тэкстаў з беларускай мовы на шведскую, а цяпер працуе ў Міністэрстве замежных справаў Швецыі.

Адзін з удзельнікаў пастаноўкі прафесар Андрэй Катлярчук задаволены, што на спектакль прыйшло шмат новых людзей, якія даўно не бралі ўдзелу ў мерапрыемствах дыяспары.

"Усе добра вывучылі ролі, мелі пазітыўны настрой, былі апранутыя ў нацыянальныя строі ці адпаведнае ролі адзенне, пэўны каларыт дадаваў і прынесены самавар царскіх часоў, — распавядае Катлярчук. — Выдатна атрымаўся дыялог Стэфана Эрыксана (заходняга вучонага) і Галіны Краснянскай (усходняга вучонага). Роля Стэфана была асаблівa для яго няпростая, бо цалкам гучала на польскай мове. Вось чаму напярэдадні прэм'еры ён не толькі вельмі адказна яе вывучыў, але і пракансультаваўся з беларусамі, якія валодаюць польскай, наконт вымаўлення.

Катлярчук адзначае, што спектакль "Тутэйшыя" — гэта першая беларускамоўная пастаноўка ў Швецыі:

"На сёння я ведаю дзве сучасныя пастаноўкі п'есы "Тутэйшыя" — адна ў выкананні Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы (у Мінску) і другая — мастацкі фільм, зняты тэлеканалам "Белсат". Пастаноўка ў Швецыі — гэта новая спроба адрадзіць і данесці да публікі твор вялікага класіка Янкі Купалы — чалавека, тэксты якога не старэюць".

Арганізацыя "Sveriges Belarusier" ("Беларусы Швецыі") як афіцыйнае аб'яднанне беларускай дыяспары існуе ўжо 6 гадоў. Арганізацыя не мае дакладна вызначанага палітычнага ці рэлігійнага профілю, яна яднае беларусаў розных узростаў і прафесіяў і палітычных поглядаў.

*Ірына Азаранка, "Радыё Свабода"*

## СТАЦЬ ГРАМАДЗЯНІНАМ БЕЛАРУСІ БУДЗЕ ЛЯГЧЭЙ

Атрымаць беларускае грамадзянства цяпер стане лягчэй. Гэта вынікае з тых паправак да закона "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь", які сёння прынялі ў першым чытанні дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.

Галоўная навацыя ў змяненні — спрошчаны парадак атрымання грамадзянства Рэспублікі Беларусь тымі людзьмі, якія раней не з'яўляліся грамадзянамі СССР.

Як патлумачыў міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, які прадстаўляў закон, грамадзяне, якія нарадзіліся пасля распаду Савецкага Саюза, нарадзіліся па-за межамі Рэспублікі Беларусь, але маюць этнічныя беларускія карані, цяпер, калі гэтая папраўка да заканадаўства запрацуе, змогуць атрымаць беларускае грамадзянства ў спрошчаным парадку.

Таксама прэтэндаваць на беларускае грамадзянства змогуць дзеці, якія нарадзіліся ў Рэспубліцы Беларусь ад бацькоў без грамадзянства.

Законапраектам таксама вызначаны так званы цэнз аселасці. Гэта азначае, што для таго, каб хадайнічаць аб атрыманні беларускага грамадзянства, чалавеку трэба пражыць на тэрыторыі Беларусі без выезду не менш за 7 гадоў.

Адказваючы на пытанне дэпутатаў, Ігар Шуневіч сказаў, што гэтыя змены ўводзяцца для таго, каб павялічыць колькасць грамадзян Рэспублікі Беларусь, асабліва тых, хто мае этнічныя беларускія карані.

Міністр унутраных спраў сказаў, што ў Беларусі Аляксандр Лукашэнка кожны квартал падпісвае ўказ аб набыцці замежнымі грамадзянамі грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Звычайна ў такім указе прыкладна 100 прозвішчаў. Прычым выходзяць з беларускага грамадзянства ў паўтара разы меней, чым жадаюць яго набыць.

Пераважна хадайнічаюць аб набыцці беларускага грамадзянства людзі, якія нарадзіліся на тэрыторыі былога СССР. "Зараз акцэнт, з вядомых вам усім прычын, перамясціўся ва Украіну", — адзначыў Ігар Шуневіч.

*Уладзімір Глод, "Радыё Свабода"*

## У ПАЛТАВЕ ВЫДАДЗЕНЫ ЗБОРНІК БЕЛАРУСКІХ ВЕРШАЎ

Зборнік беларускіх вершаў "Ад сэрца да сэрца – дарога" паэткі Іны Снарскай быў выдадзены ў Палтаве. З Украіны зборнік патрапіў і да беларусаў у Варшаве, аўтарка адмыслова зрабіла падарунак для землякоў у Польшчы.

Антось Койпіш, адзін з тых, хто атрымаў зборнік, адзначыў асаблівую каштоўнасць выдання: "Гэта ўнікальная падзея, што ва Украіне была выдадзеная кніга вельмі якасных беларускіх вершаў. Гэтая кніга была перададзена ў Варшаву для Руху салідарнасці "Разам". І мы вельмі ўдзячныя аўтару. Тое, што ва Украіне выдадзеная гэтая кніга, – вялікае дасягненне. Бо цяжка захаваць сваю мову ў іншамоўным асяроддзі".

Іна Снарская нарадзілася ў Полацку. Жыве ва Украіне з 1987 года, дзе працуе рэдактарам на палтаўскім тэлебачанні "Лтава". Зборнік "Ад сэрца да сэрца – дарога" – гэта ўжо сёмы зборнік вершаў аўтаркі.

*Адам Завальня, "Беларускае Радыё Рацыя"*

# АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДР НАДСАН: “ЧАКАЮ, КАЛІ БЕЛАРУСЬ СТАНЕ БОЛЬШ БЕЛАРУСКАЙ”

*15 красавіка ў Лондане не стала аднаго з духоўных лідараў беларускай эміграцыі – айца Аляксандра Надсана, асобы надзвычай важнай для Беларусі і беларускага замежжа. Гутарка з айцом Аляксандрам мусіла з’явіцца пазней у межах праекта “Я “нарадзіўся” там”. Аднак мы палічылі сваім абавязкам апублікаваць яе цяпер, калі айца Аляксандра больш няма з намі.*

*Аляксандр Надсан – святар апостальскай грэка-каталіцкай царквы, апостальскі візітатар, дырэктар Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане, буйны дзеяч беларускай эміграцыі, аўтар шэрагу кніг па гісторыі Беларусі, перакладчык літургічных тэкстаў візантыйскага абраду на беларускую мову. Лондан. Гутарка адбылася ў межах праекта “Я “нарадзіўся” там” кампаніі “Будзьма беларусамі!” і часопіса “Большой”. Праект ажыццяўляецца пры падтрымцы кампаніі “Туссон”.*



**— Айцец Аляксандр, калі апошні раз былі на Беларусі?**

— Хіба 4-5 гадоў таму на апошнім з’ездзе “Бацькаўшчыны”. Мне ўжо цяжка. 88 гадоў, разумееце (смяецца). Часта ездзіў, калі быў Савецкі Саюз, пасля Чарнобыльскай бяды — вазіў лекі для дзетак хворых. Магілёўскія, гомельскія шпіталі давалі нам спісы лекаў, мы збіралі грошы і ім прывозілі. Каля 15 разоў адпраўлялі машыну з Англіі — у Беларусь, праз усю Еўропу. Таксама бралі дзетак сюды на аздараўленне ў англійскія сем’і. Апошняя група дзяцей была тут, можа, у 2005 годзе. Цяпер гэта цяжка рабіць, ды і ўзрост не той. Студэнты ў мяне былі, вучыліся тут, некаторыя вярнуліся ў Беларусь, некаторыя засталіся ў Англіі. Браў хлапцоў, што на святароў вучыліся. Мой цяперашні пераемнік, айцец Сяргей Стасевіч, так вось і з’явіўся. Я яго паслаў потым у Рым вучыцца, цяпер ён тут службы ладзіць.

*Айцец Аляксандр Надсан нарадзіўся ў вёсцы Гарадзея, недалёка ад Нясвіжа. Беларускасць яму дасталася ад бацькі — настаўніка матэматыкі, які ў свой час браў удзел у Слуцкім паўстанні.*

— Я ўцёк з Беларусі праз Польшчу, калі мне споўнілася 18 гадоў. Афіцыйна мы былі польскімі грамадзянамі. Я ўцякаў ад немцаў, трапіў у польскае войска, ваяваў у Італіі, быў паранены. Потым трапіў у Англію, атрымаў стыпендыю на вучобу.

**— А святаром як сталі?**

— Быў добры прыклад — біскуп Чэслаў Сіповіч. Ён нарадзіўся ў Друі. Спачатку вучыўся на багаслоўі ў Вільні, а потым, як палякі яго выкінулі з Польшчы, у Рыме. Там вырашыў стаць святаром усходняга абраду. Я з ім сустрэўся ў Рыме ў 1945 годзе, у лістападзе. Ён паўплываў на маё рашэнне, безумоўна.

Першае, што пабачыў у Англіі, — вельмі хмурнае надвор’е. Туман. Там, у Італіі, сонца, цёпла. Але тут нас прынялі вельмі цёпла, далі магчымасць вучыцца, за гэта мы вельмі ўдзячныя. (…)

Калі мы прыехалі ў Англію, галоўнай нашай мэтай было выжыць. Выжыць і застацца беларусамі. Самаарганізавацца так, каб не раставарыцца. А яшчэ вельмі хацелася зрабіць, каб Беларусь стала больш вядомая на Захадзе. Найбольшы ўклад у гэтую справу зрабіў біскуп Чэслаў Сіповіч, мы з ім супрацоўнічалі з 1945 года. Я яшчэ не быў святаром, у Італіі знаходзіўся, яшчэ ішла вайна. У 1946 годзе я прыехаў у Англію, ён тады таксама прыехаў. Мы зрабілі Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі. Тады мы былі маладыя, 20 гадоў, але ўсе — моцна свядомыя беларусы. І вось яно існуе дагэтуль. Мы не лезлі ў палітыку. Нам хацелася, каб быў беларускі цэнтр, куды б маглі прыйсці людзі і даведацца пра гісторыю, культуру. Пра нас жа нічога не ведалі на Захадзе. Мы для іх былі “рускія”. Але як паказаць, хто ты, каб не праз палітыку, каб не крычаць пра гэта? Культура — гэта была наша ідэя. (…)

*Знаёмства з “Марыйным Домам” у Лондане пачалося са знаёмства са Скарынаўскай бібліятэкай. Афіцыйна адкрылася яна ў 1971 годзе, але працаваць пачала значна раней.*

— У Бібліятэку нашу прыходзяць, чытаюць. Гэта не публічная бібліятэка — навуковая, прыязджаюць з усяго свету тыя, хто працуе з мовай, гісторыяй: з Амерыкі, Аўстраліі, Ізраіля, немцы, французы.

Мы збіралі дзе маглі звесткі пра Беларусь. Выдавалі па-англійску часопіс беларускіх даследаванняў (“The Journal of Belarusian studies“), але цяпер крыху пастарэлі-параз’ехаліся — ужо цяжка. Па-англійску шмат што рабілася. Рабіліся канферэнцыі. І не аднадзённыя, а на некалькі дзён, куды прыязджалі навукоўцы-славісты з усяго свету: Францыі, Амерыкі, Аўстраліі, на апошняй вось былі і з Беларусі. Зрабілі каля 15 канферэнцый. Цяпер вось маладыя часопіс адраджаюць. Мы не займаліся сучаснай палітыкай, але культурай: гісторыяй, літаратурай, мовай… І я некалі ў гэты часопіс пісаў і пісаў шмат, але цяпер ужо не. Колькі можна. Я сваё напісаў. (…)

Беларусы ў большасці сваёй не мелі магчымасці спазнаць сваю гісторыю. Часта з яе робяць прарасійскую інтэрпрэтацыю. Я не супраць Расіі. Я за ўшанаванне кожнай нацыі, бо гэта Бог хацеў, каб былі розныя народы. У скарбніцу ўсяго свету беларусы маюць прынесці нешта сваё. Сваё — самае дарагое.

**— Пераемніка на пасаду святара вы знайшлі, а хто ж будзе займацца бібліятэкай? Гэта ж сапраўды багацце!**

— Будзе, напэўна, айцец Сяргей займаецца, бо ведаеце ж, святары — адзіная сацыяльная група, якую можна эксплуатаваць бяскарна (*смяецца*).

**— Быць святаром — цяжкая праца?**

— Для мяне не цяжкая, бо я люблю яе. Я ж ведаў, куды ішоў. Я дзякую Богу, што ён захацеў мяне паклікаць на гэта. (…)

**— Пра што ваша звычайная малітва?**

— Малітва… усведамленне, што ты ёсць у прысутнасці Бога ўвесь час. І таму вядзеш дыялог з ім. Яна — пра ўсё. Я займаўся пісаннямі беларускіх татараў. Вельмі цікавыя рэчы там. Адзін прарок пытаўся Госпада пра апошні Суд, ці будзе ён страшны. Яму адказвае Бог, што не, шмат пытацца ён не будзе на Судзе. Адно толькі: “Сыне мой, я быў з табою, а ты з кім быў? Ці быў ты з Богам?” Вельмі цікавая рэч. Што б ты ні рабіў, дзе б ні быў — Бог з табою заўсёды. Гэта важна. А калі ты ведаеш, што ты ў прысутнасці кагосьці, іншай істоты, дык і не хочацца ўжо дрэннае рабіць. І малітва — гэта тое, што дапамагае адчуць гэтую прысутнасць. (…)

**— Якой вам цяпер бачыцца Беларусь?**

— Ну, я чакаю, калі Беларусь стане больш беларускай, калі маладое пакаленне далучыцца да нас. Зашмат расійскага. З такой цяжкасцю ўсё адраджаецца, так мала людзей, якія клапоцяцца пра гэта. На вуліцах не пачуеш беларукай мовы. А ў якім Магілёве ці Гомелі — дык наогул… Як я не разумею расійскай мовы, дык часам маю прыкрасць праз гэта. Ёсць маладыя — вельмі цікавыя, якія трымаюцца, нягледзячы на ўсю гэтую русіфікацыю, але гэта параўнаўча невялікая група. Але ж усё пачынаецца з малога.

Ці паспяховае жыццё? (*Ізноў смяецца*). Ведаеце, ніколі пра гэта не думаў. Проста заўсёды стараўся нешта рабіць, улічваючы тыя абставіны, у якіх аказаўся, каб не марнаваць час. Не задумваючыся пра шырэйшае — як чалавек, як святар, як беларус. Тое, у чым была патрэба. Дзякую Богу за тое, што ўдалося зрабіць. Спадзяюся, не зусім змарнаваў жыццё.

*Кацярына Петухова,*
*адмыслова для budzma.by.*
*Фота Ягора Воінава.*

## НОВЫЯ ДАКУМЕНТЫ ЗАМЕЖНЫХ БЕЛАРУСАЎ У БДАМЛМ

Цягам 7-10 красавіка 2015 г. у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва паступілі новыя дакументы замежных беларусаў.

Так, у выніку перамоваў, паведзеных вядучым архівістам, сябрам Рады Згуртавання "Бацькаўшчына" Наталляй Гардзіенка на падставе Палажэння "Аб навукова-творчай ініцыятыве "Цэнтр камплектавання і вывучэння дакументальнай спадчыны беларускага замежжа", на захаванне ў архіў была перададзена яшчэ адна частка асабістых дакументаў гісторыка Юрыя Туронка – яго ліставанне з дзеячамі Беларусі і замежжа.

Пра стварэнне ў БДАМЛМ асабістых фондаў было дамоўлена з беларускімі дзеячамі Польшчы Аляксандрам Баршчэўскім, Янам Чыквіным, Віктарам Шведам. Атрыманая і чарговая частка дакументаў з Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Ёрк). Сябра Інстытута архівіст Лявон Юрэвіч перадаў у БДАМЛМ карэспандэнцыю Вітаўта Тумаша, Юркі Віцьбіча, Яна Пятроўскага, Міхася Саўкі-Міхальскага, Эміля Цяўлоўскага і іншых беларускіх дзеячаў паваеннай беларускай эміграцыі, што захоўвалася ў БІНіМе.

Каштоўная пасылка прыйшла з Канады ад старшыні мясцовага БІНіМа др. Зіны Гімпелевіч, якая перадала на заклік Цэнтра дакументы дзейнасці ўстановы, якой яна кіруе.

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва дзякуе ўсім за перададзенае і спадзяецца на новыя паступленні дакументаў замежных беларусаў.

*Паводле bdamlm.by*

## КНІГА ДАРОТЫ МІХАЛЮК ПРА БНР ВЫЙШЛА ПА-БЕЛАРУСКУ

Выйшаў з друку беларускі пераклад кнігі даследчыцы з Торуня Дароты Міхалюк пад назвай "Беларуская Народная Рэспубліка 1918—1920 гг.: ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці".

У кнізе апавядаецца пра спробу здабыцця беларусамі дзяржаўнасці пасля Першай сусветнай. Аўтарка намагалася як мага паўней паказаць нараджэнне і развіццё беларускай дзяржаўніцкай ідэі, а таксама дзейнасць, якая прывяла да стварэння і абвяшчэння незалежнасці БНР. Адно з галоўных пытанняў — прычына няўдачы беларускіх дзяржаўных планаў.

Храналагічна разгляд праблемы даведзены аўтаркай да падзення ўрада БНР на чале з Антонам Луцкевічам у лютым 1920 г., бо менавіта ў той момант, на яе думку, разваліўся беларускі незалежніцкі лагер, а ўрад БНР фактычна страціў здольнасць дзейнічаць.

*Паводле arche.by*

## ЛЮБА ТУРБІНА ПРАДСТАВІЛА КНІГУ-БІЛІНГВА



Прэзентацыя зборніка вершаў Любы Турбіной "Поезд "Минск — Москва" = Цягнік "Мінск — Масква" (Мінск: Кнігазбор, 2015, серыя "Кнігарня пісьменніка") прайшла ў кнігарні "ЛогвінаЎ".

Адметнасць гэтай кнігі ў тым, што яна выйшла ў фармаце білінгва: тут поруч з аўтарскімі рускамоўнымі тэкстамі змешчаныя іх пераклады на беларускую мову. Незвычайна таксама, што некаторыя вершы маюць некалькі варыянтаў перакладу.

Над перастварэннем вершаў Любы Турбіной на беларускую мову працавалі перакладчыкі Рэгіна Рэўтовіч, Людка Сільнова, Галіна Дубянецкая, Сяржук Сыс, Мікола Шабовіч. Менавіта яны падчас прэзентацыі пасля прачытання арыгіналаў аўтарам прадстаўлялі іх беларускамоўныя варыянты.

Для самой жа паэткі Любы Турбіной вечарына была настальгічна-сентыментальнай. Яна ціха чытала вершы на памяць, баючыся расплакацца, ухваляла пераклады, з цеплынёй прыгадвала часы, калі жыла ў Мінску, успаміналa старых сяброў.

У кнігу вершаў Любы Турбіной "Поезд "Минск — Москва" = Цягнік "Мінск — Масква" ўвайшлі творы, напісаныя ў розныя гады.

*Паводле Марыны Весялуха, lit-bel.org*

IN MEMORIAM

## ПАМЁР АЛЯКСАНДР МІЦКЕВІЧ



*Здымак Алеся Міцкевіча з кнігі Зянона Пазьняка "Тэрра Дэй"*

Сумная вестка прыйшла з Нью-Ёрка. 28 красавіка памёр пляменнік Якуба Коласа грамадскі дзеяч Аляксандр Міцкевіч.

Аляксандар Міцкевіч нарадзіўся у вёсцы Мікалаеўшчына ў сям'і Міхаліны Міцкевіч, сястры Якуба Коласа, у 1919 г.

Напярэдадні Другой сусветнай вайны скончыў настаўніцкія курсы і працаваў настаўнікам у Жыгалкаўскай вясковай школе. У 1944 г. выехаў на эміграцыю: Аўстрыя — Францыя — Бельгія. Спрабаваў вучыцца на філасофскім аддзяленні Лювенскага ўніверсітэта, але не скончыў. У 1955 г., атрымаўшы запрашэнне ад дзядзькі — Міхася Міцкевіча (брата Якуба Коласа) — перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку.

Быў сябрам Беларуска-амерыканскага задзіночання, уваходзіў у Галоўную ўправу арганізацыі, кіраўніцтва Нью-Ёрскага аддзела. Ад 1965 г. быў сябрам рэдкалегіі ды распаўсюднікам газеты "Беларус".

У 1980—1990-х выдаваў бюлетэнь "Весткі й паведамленьні Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА". Радны БНР.

Пахавалі Аляксандра Міцкевіча 2 траўня на беларускіх могілках у Іст-Брасвіку (Нью-Джэрсі). Абрад адпявання правёў айцец Зіновій у царкве Жыровіцкай Іконы Божай Маці ў Нью-Брансвіку. З траўня айцец Іван Кухар, протаіерэй БАПЦ, правёў памінальную службу па Алесю Міцкевічу ў Кафедральным Саборы БАПЦ па замове БАЗА.

*Паводле Наталлі Гардзіенка і Віктара Дударава*

***Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае глыбокія спачуванні ўсім блізкім Аляксандра Міцкевіча. Светлая памяць!***

# ЛЁС СТАГОДДЗЯ Ў ЛЁСЕ ЧАЛАВЕКА

***Беларус, дзякуючы якому шмат хто ў свеце даведаўся пра Беларусь, на сваёй Радзіме доўгі час быў амаль невядомы. Сёння імя гэтага выдатнага вучонага, настаўніка, шчырага і адкрытага чалавека, лёс якога адлюстроўвае цэлую эпоху, ведаюць многія. І ў гэтым – вялікая заслуга пісьменніцы і даследчыцы літаратуры Лідзіі Сымонаўны Савік. Барыс Кіт, пра якога ідзе гаворка, не раз у гутарцы з ёй казаў: “Дзякуючы Вам я вярнуўся ў Беларусь”. Напярэдадні 105-гадовага юбілею Барыса Уладзіміравіча Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” распытала Лідзію Савік, як жа адбывалася гэтае вяртанне.***

***Цалкам гутарку можна прачытаць на сайце zbsb.org, мы ж публікуем некаторыя ўрыўкі.***

**Знаёмства з Барысам Кітам**

У пачатку 1990-х гадоў, калі Беларусь неспадзявана атрымала незалежнасць, нас, даследчыкаў літаратуры, дапусцілі да архіваў КДБ: мы вывучалі тыя страшныя архівы і вярталі імёны рэпрэсаваных і расстраляных пісьменнікаў у нашу літаратурную гісторыю. Там я даведалася, што вельмі шмат нашых пісьменнікаў з’ехала пасля вайны ў замежжа і найбольш іх жыве ў ЗША. На той час нават мы, даследчыкі літаратуры, мала што ведалі пра іх – хіба імёны. Таму творчасць замежных пісьменнікаў выклікала вельмі вялікую цікавасць. І ў мяне надарылася магчымасць паехаць у Амерыку: Інстытут літаратуры Акадэміі навук, дзе я працавала, камандзіраваў збіраць матэрыялы пра пісьменнікаў беларускага замежжа, і вынікам стала мая кніга “Пакліканыя”, шэраг нарысаў, артыкулаў аб набытках беларускіх эмігрантаў у культуры, навуцы, гісторыі, мастацтве і грамадскім жыцці.

У ЗША я паехала на выклік Масея Сяднёва, аднаго з нашых таленавітых пісьменнікаў, які жыў непадалёку ад Нью-Ёрка, у Глен-Кове, і сябраваў з Барысам Кітам. І так здарылася, што калі я прыехала да Масея і спынілася ў яго доме (гэта было якраз перад Новым 1992-м годам), да яго ў госці завітаў Барыс Кіт. Ён ехаў з Канады, дзе яму ўручылі дыплом акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі.

У Беларусі яго імя не было шырока вядомае, хаця трошкі мы ўжо пра яго ведалі з публікацый Адама Мальдзіса ды Яўгена Лецкі. А тут я ўпершыню яго пабачыла і пачула! Ён так добра гаварыў па-беларуску! У нас на бацькаўшчыне такой мовы не пачуў бы. Яна была такая мяккая, такая прыгожая, так арганічна лілася з яго вуснаў! Барыс Кіт вельмі мяне зацікавіў і ўражанне было такое, што я гэтага чалавека ўжо вельмі даўно ведаю. З ім было вельмі проста і лёгка, нягледзячы на тое што ён быў вядомым у навуковым свеце вучоным. Масей Сяднёў расказаў яму, што Інстытут літаратуры прыслаў мяне займацца яго творчасцю і дзейнасцю, і Барыс Кіт зацікавіўся. Ужо з’ехаўшы з Глен-Кова, ён тэлефанаваў мне, а потым запрасіў да сябе ў Франкфурт, дзе на той час жыў, каб распавесці пра сваё жыццё. (…)

**Не пісаць пра яго немагчыма!**

Ён так цікава расказваў, што я, можна сказаць, нават нічога і не запісвала, а толькі сядзела і слухала. Найперш, сама асоба Барыса Кіта незвычайная. У яго лёсе ўвасабляецца лёс нашай Бацькаўшчыны і падзеі апошняга стагоддзя. І хаця я займалася даследаваннямі літаратуры, перада мной апынуўся такі незвычайны беларус, незвычайны чалавек, што не напісаць пра яго я проста не магла. Вярнуўшыся, я пачала пісаць нарысы, якія змяшчаліся ў газеце “Голас Радзімы”, і ён атрымліваў гэтую газету. З гэтых нарысаў у мяне атрымалася кніжка “Вяртанне”.

У мой другі візіт Барыс Кіт перадаў свой архіў у Навагрудскі краязнаўчы музей, я атрымала больш матэрыялаў па яго жыцці і да яго 85-годдзя выдала ўжо больш-менш фундаментальную кнігу “Космас беларуса”. Потым былі і іншыя выданні. (…)

**Вяртанне праз паўстагоддзя**

Калі ўлада перамянілася і Беларусь быццам стала незалежная, нашы беларусы-эмігранты ўрэшце асмеліліся прыязджаць дамоў. Амаль 50 гадоў яны баяліся нават трымаць сувязь, перапісвацца са сваякамі, якія тут жылі, таму што быў праслед. Барыс Кіт тады прыехаў упершыню пасля 50 гадоў адсутнасці на Бацькаўшчыне, і ў Маладзечна была з ім вельмі кранальная сустрэча. Тады быў жывы яшчэ наш выдатны вучоны, краязнавец Генадзь Каханоўскі, былі жывыя яго вучні мастак Кастусь Харашэвіч, прафесар медыцыны Пётр Маркавіч Кузюковіч… Многія яго вучні з Паставаў, з Маладзечна сабраліся на сустрэчу са сваім настаўнікам. Упершыню за доўгі час ён нарэшце змог пабачыцца з імі.

Калі Барыс Кіт прыязджаў першы раз у Беларусь, у яго была ідэя стварыць беларускі ўніверсітэт на ўзор еўрапейскіх, з філіяламі ва ўсіх больш-менш буйных гарадах Беларусі. Ён са сваім адвакатам пачаў рассылаць у самыя багатыя фундацыі Еўропы і Амерыкі просьбы дапамагчы ў адкрыцці такога нацыянальнага ўніверсітэта. Разаслалі такіх просьбаў вельмі многа, і ўсё б, напэўна, атрымалася, але для Беларусі настаў іншы час, і ўмовы былі неспрыяльныя.

Другі раз Барыс Кіт прыязджаў на пасяджэнне Міжнароднай акадэміі навук і мастацтваў Еўразіі – ён быў яе віцэ-прэзідэнтам. Тады яго прымала “Бацькаўшчына”, Акадэмія навук Беларусі, ён сустрэўся з братам і сястрой, з многімі былымі вучнямі.

**Ад юбілею да юбілею**

Мы адзначалі яго 90-годдзе выданнем юбілейнага альбома, які змяшчаў шмат вельмі добрых і рэдкіх здымкаў. Прадмову напісаў Васіль Быкаў, ёсць у альбоме вершы Вольгі Іпатавай, Рыгора Барадуліна. Да 95-годдзя выйшла кніга “Грамадзянін свету”, для якой я збірала матэрыялы. Гэта ўспаміны пра Барыса Кіта славутых вучоных з усяго свету, што з ім сустракаліся. (…)

Стагоддзе Барыса Кіта мы адзначалі шырока, Згуртаванне “Бацькаўшчына” арганізавала вялікую вечарыну і сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў выдала кнігу “Зорны шлях”, я яе ўкладала, пісала прадмову. А самае галоўнае, што да гэтага юбілею нам з Вольгай Іпатавай удалося ў яго школе ў Наваградку адкрыць невялічкі музей Барыса Кіта. Калісьці гэта была беларуская гімназія, якую ён будаваў разам з бацькамі сваіх вучняў, ён быў там выкладчыкам матэматыкі і дырэктарам. Яшчэ раней на гэтым будынку ўлады Наваградка з нашай ініцыятывы адкрылі мемарыяльную дошку, прысвечаную Барысу Кіту.

Цяпер Кіту ўжо 105 гадоў, ён жыве па-ранейшаму ў Франкфурце-на-Майне. Нядаўна малодшы сын Віктар, прафесар і вядомы хірург, прыязджаў яго адведаць. На вялікі жаль, старэйшы сын ужо памёр… (Нарадзіўся 4 лістапада 1941 года на Беларусі, памёр 4 лістапада 2009 года ў Вашынгтоне. Ён доктар навук, займаў высокую пасаду ў НАСА.)

Барыс Кіт – асоба сусветная, грамадзянін свету, яго ведаюць у шмат якіх краінах і паўсюль ён заяўляў пра сябе як пра беларуса. Ён для ўсіх прыклад: як кожнаму з нас трэба самому сябе ствараць, найперш як асобу, сцвярджаць сябе як чалавека. І таму дзякаваць Богу, што яму ўжо 105 гадоў, што ён жывы і яшчэ поўны сілы, энергіі, выдатнай памяці. Дзякуй Богу, што нам удалося вярнуць яго імя на Радзіму!

*Гутарыла Алеся Башарымава, прэс-сакратар МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

***На сайце zbsb.org чытайце таксама артыкул Канстанціна Касяка “Легенда касмічнага маштабу”, напісаны адмыслова да юбілею Барыса Кіта на замову МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”.***

## "З ФАЛЬВАРКА МАРЦІНОВА ДА ФАРМІНГТОНСКІХ УЗГОРКАЎ": УСПАМІНЫ ПАДЛЕТКА-ЭМІГРАНТА




У серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", заснаванай у 2004 годзе Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", у выдавецтве "Кнігазбор" пабачыла свет новае, 24-е, выданне – успаміны беларус-кага эмігранта Святаслава Шабовіча "З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў. Гісторыя аднаго падарожжа". Кніга была напісаная па-англійску, а пераклад на беларускую мову зрабіла Віялета Кавалёва.

Падчас Другой сусветнай вайны Святаслаў Шабовіч страціў бацькоў, а ў дванаццаць гадоў пакінуў Беларусь, нейкі час жыў у лагерах для перамешчаных асобаў у Германіі, пакуль урэшце не выехаў у ЗША, дзе і асталяваўся.

У прадмове да кнігі даследчыца эміграцыі Наталля Гардзіенка кажа, што да XX ст. у беларускім эміграцыязнаўстве пакаленне народжаных у 1930-я заставалася незаўважаным, таму што яго прадстаўнікі пакінулі не так шмат успамінаў. А ўжо ў нашым стагоддзі пакрысе пачалі з'яўляцца мемуарныя тэксты. "І хоць да сёння іх параўнальна няшмат, тым не менш мы можам казаць пра гэтыя ўспаміны як асаблівую з'яву ў эміграцыйнай мемуарыстыцы", – сцвярджае Наталля Гардзіенка.

Штуршок напісанню ўспамінаў дало падарожжа Святаслава Шабовіча па Еўропе, якое ён здзейсніў у пачатку XXI стагоддзя. Тады ж ён наведаў і Беларусь, мясціны свайго дзяцінства.

Аўтар кнігі вельмі адкрыта расказвае пра асабістыя перажыванні і назіранні, і таму ягоныя ўспаміны нагадваюць споведзь. Пісаліся яны першапачаткова для сям'і, нашчадкаў, народжаных ужо ў ЗША. Таму ў аповедзе аўтар часам тлумачыць рэчы, звязаныя з рэаліямі беларускага жыцця. Згадкі мінулага нярэдка перагукаюцца з уражаннямі сучаснымі. Ёсць у кнізе і здымкі розных часоў.

У сваім аповедзе Святаслаў Шабовіч згадвае сваё маленства, сям'ю, апісвае малую радзіму і ваенныя падзеі, што пакінулі яго і трох ягоных сясцёр сіротамі. Аўтар дзеліцца ўспамінамі пра ўцёкі на Захад разам з дзядзькавай сям'ёй, тулянне ў паваеннай Еўропе, а таксама расказвае пра прыезд у Амерыку. Аднак амерыканскую частку свайго жыцця ён толькі закранае: згадвае сустрэчу з дзядзькам, які там атабарыўся раней, пераезд да яго, службу ў арміі. Пра гэтую частку жыцця Шабовіча крыху больш згадваецца ў прадмове Наталлі Гардзіенка.

Кнігу "З фальварка Марцінова да Фармінгтонскіх узгоркаў" ужо можна набыць у кнігарнях Мінска: "Акадэмкніга" (пр-т Незалежнасці, 72), кнігарня "логвінаЎ" (пр-т Незалежнасці, 37А), "Кнігарня пісьменніка" (вул. Казлова, 2), "Веды" (вул. К.Маркса, 36), "Цэнтральны кніжны" (пр-т Незалежнасці, 19), "Кнігі & кніжачкі" (пр-т Незалежнасці, 14), а таксама ў інтэрнэт-краме knihi.by.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ПРЭМІЯ СТАГАНОВІЧАЎ: АЎТАРЫ "НОН-ФІКШН" ЗАЙМЕЛІ АСОБНУЮ ЎЗНАГАРОДУ

Літаратура нон-фікшн, у якой сышліся празаічны талент і любоў да гістарычнай дакладнасці, нарэшце займела ў Беларусі асобную ўзнагароду! Прэмію імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў уручылі ва ўтульным Cafe Netto ў Мінску.

Ідэя прэміі ўзнікла менш як год таму з прапановы беларускай мастачкі Тамары Стагановіч, якая жыве ў ЗША. Так яна хацела ўшанаваць памяць сваіх бацькоў, якія пакінулі па сабе ўнікальныя мемуары. Ажыццяўляць задуму ўзялася гісторык і даследчыца эміграцкай спадчыны Наталля Гардзіенка. На прэмію адразу было пададзена каля 50 кніг на беларускай мове. Журы, у якое ўваходзілі архівісты, бібліятэкары, выдаўцы і літаратуразнаўцы, вылучыла шорт-ліст.

Прэмія была падтрыманая некалькімі арганізацыямі, але паколькі яна заснаваная эмігрантамі, то найбольш актыўна да яе далучылася Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Старшыня Рады Ніна Шыдлоўская зазначыла, што з'яўленне новай прэміі – падзея ў беларускай літаратуры, бо дакументальны жанр дагэтуль заставаўся без дастатковай увагі грамадскасці: "Бацькаўшчына" не магла застацца ўбаку ад гэтай ідэі, – распавяла яна. – Бо арганізацыя ўсе гады імкнецца не проста вярнуць імёны, падзеі, гісторыю беларусаў замежжа ў інфармацыйна-культурнае поле Беларусі, але такім чынам аб'яднаць раздзеленую межамі беларускую нацыю".

Саюз беларускіх пісьменнікаў – яшчэ адзін важны партнёр прэміі, яго старшыня Барыс Пятровіч таксама казаў пра незаслужаную недаацэненасць публіцыстычных кніг, якія цяпер замацавалі свае пазіцыі, займеўшы ўзнагароду. Ён нагадаў: "Дарэчы, з нядаўняга часу у нашым саюзе з'явілася секцыя нон-фікшн дзякуючы ініцыятыве Наталлі Гардзіенка, і шмат людзей, якія працуюць у гэтым жанры, горача яе падтрымалі".

Андрэй Федарэнка атрымаў трэцяе месца за кнігу "Сечка", якую склалі літаратурныя мініяцюры – эсэ, абразкі, замалёўкі, нататкі на мяжы прозы і дакументальнага жанру.

Другую ўзнагароду атрымала кніга гістарычных артыкулаў выбітнага архівіста Генадзя Кісялёва "Смак Беларушчыны". Кніга была выдадзеная па смерці аўтара, і апошнія акорды выдання рабіла жонка Генадзя Кісялёва Яніна Міхайлаўна ў памяць пра мужа і ягоную вялікую ролю ў беларускай гісторыі.

А найлепшай кнігай стаў зборнік інтэрв'ю "Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду", які рабілі Сяргей і Таццяна Дубаўцы ў 2010 годзе для "Радыё Свабода". Кніга расказвае пра моладзевае згуртаванне "Майстроўня", у якім пры канцы 1980-х адкрывалі для сябе прыцягальную і сакральную беларушчыну многія вядомыя сёння асобы.

"Я не вельмі разбіраюся ў адрозненні "фікшн" і "нон-фікшн", – сказаў Сяргей Дубавец. – Калі мы ў студэнцтве гадавалі свае мазгі на кнігах Адама Мальдзіса, Генадзя Кісялёва і іншых, нам не прыходзіла ў галаву, што гэта "нон-фікшн", дакументальная літаратура, таму што паўсюль там прысутнічала асоба аўтара і элементы вобразнага пісьма, гэта былі проста выдатныя кнігі. Таму ўсё залежыць ад таго, з якім настроем аўтар сядае пісаць. Калі ён у душы паэт, то і кніга на дакументальным матэрыяле будзе напоўненая вобразнасцю. Галоўнае, кнігі павінныя быць цікавыя".

Кніга пра "Майстроўню" якраз пацвярджае тое, што і ў зборніку інтэрв'ю можа знайсці цуд, як і ў найлепшай прозе.

*Паводле budzma.by*

## СТАРТАВАЎ ШОСТЫ AD.NAK! У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ — ШЛЯХ РЭКЛАМІСТА!

16 красавіка стартаваў Шосты фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! З 20 красавіка да 1 чэрвеня адкрыты прыём працаў ад удзельнікаў Фестывалю, а цырымонія ўзнагароджання пройдзе 2 ліпеня ў Мінску. Як заўсёды, удзел у Фестывалі бясплатны.

Асноўная канцэпцыя сёлетняга, Шостага, AD.NAK! — "Годны шлях рэкламіста".

На думку каардынатара кампаніі "Будзьма беларусамі!" Ніны Шыдлоўскай, Фестываль ужо прайшоў пэўны шлях і стаў актуальнай з'явай беларускага жыцця, таму надышоў час звярнуць увагу на асобу стваральніка рэкламы. "Рэкламны і – шырэй – культурніцкі прадукт робяць канкрэтныя людзі. Ад іх майстэрства, каштоўнасцяў і светапогляду залежыць шмат. Таму ў цэнтры ўвагі сёлетняга Фестывалю – асоба самога стваральніка. Кожны рэкламіст праходзіць свой індывідуальны шлях да поспеху, да ўнікальнай ідэі. Спачатку – пошукі і сумневы, потым – канцэпцыя і ў выніку – вось ён, працоўны варыянт. Такі шлях праходзіць цяпер і наша рэклама: ад нясмелых спробаў, сумневаў, ці варта рэкламавацца па-беларуску, да таго самага моманту, калі ты не баішся на поўны голас заявіць пра сябе як пра стваральніка беларускай рэкламы".

Шосты фестываль AD.NAK! запрашае рэкламістаў, спецыялістаў у сферы камунікацыі, культурніцкіх менеджараў і прадзюсараў аб'яднаць свае намаганні і дапамагчы беларускамоўнай рэкламе прайсці гэты шлях: ад нерашучай коскі да значнага і ўпэўненага клічніка!

Генеральным партнёрам Фестывалю другі год запар выступіла кампанія velcom. Дзякуючы такой падтрымцы Фестываль, як заўсёды, пройдзе на высокім арганізацыйным узроўні, а пераможцы атрымаюць адметныя ўзнагароды.

Як адзначыў Сяргей Скараход, кіраўнік рэсурсу marketing.by і пастаянны партнёр кампаніі "Будзьма беларусамі!" ў правядзенні фестывалю, "мы штогод сочым за актуальнымі тэндэнцыямі і сусветнымі трэндамі рэкламнай і камунікацыйнай галіны. Улічваючы іх, мы дапоўнілі і абнавілі намінацыі і конкурсы, а новы сайт Фестывалю сёлета дазваляе канкурсантам максімальна зручна аформіць і падаць работу. Асноўны акцэнт пры падачы работ на сайце зроблены на якасць іх афармлення. Удзельнікам прапанаваныя стандарты і ўзоры падачы. Спадзяемся, што сёлетняе новаўвядзенне дазволіць удзельнікам карэктна данесці ідэі сваіх праектаў, а сябрам журы – аб'ектыўна ацаніць працы канкурсантаў".

Падчас традыцыйнай (як і штогод, адметнай) адукацыйнай праграмы арганізатары Шостага AD.NAK! вырашылі трымацца сусветных тэндэнцый і выйсці за межы рэкламнай галіны. Сёлета акрамя рэкламістаў спікерамі будуць вядомыя літаратары, творцы і фатографы з Беларусі, Францыі і Літвы. Разам з удзельнікамі яны паразважаюць пра свет, у якім мы ўсе разам мусім ствараць і ісці сваім годным шляхам.

*Паводле adnak.by*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ТРАВЕНЬ 2015 ГОДА

1 траўня – 100 гадоў таму на Полаччыне нарадзіўся Іван Любачка (1915-1977), настаўнік, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

3 (або 15) траўня – 170 гадоў таму ў фальв. Свольна (цяпер Верхнядзвінскі р-н) нарадзіўся Ян Чэрскі (1845-1892), удзельнік паўстання 1863-1864 гг., геолаг, географ, даследчык Сібіры.

6 траўня – 110 гадоў таму ў Слуцку нарадзіўся Юрка Гаўрук (1905-1979), перакладчык і паэт, вязень ГУЛАГу.

8 траўня – 70 гадоў таму, у 1945-м, у Берліне падпісаны Акт аб капітуляцыі Нямеччыны – скончылася Другая сусветная вайна ў Еўропе.

13 траўня – 110 гадоў таму ў Мінску нарадзілася Стэфанія Станюта (1905-2000), актрыса.

14 траўня – 20 гадоў таму, у 1995-м, у Беларусі адбыўся антыканстытуцыйны рэферэндум, які змяніў дзяржаўную сімволіку, надаў рускай мове статус дзяржаўнай, зрабіў змены ў Канстытуцыі, даўшы права прэзідэнту распускаць парламент, ухваліў эканамічную інтэграцыю з Расіяй.

18 траўня – 105 гадоў таму памерла Эліза Ажэшка (1841-1910), польска-беларуская пісьменніца, удзельніца паўстання 1863-1864 гг. З 1869 г. жыла ў Гародні, дзе і пахаваная.

24 траўня – 85 гадоў таму ў Навагрудку нарадзілася Галіна Русак (дзяўоч. Родзька; 1930-2000), мастачка, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

25 траўня – 110 гадоў таму ў мяст. Казлоўшчына (цяпер Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Сяргей Хмара (сапр. Сіняк; 1905-1992), грамадскі дзеяч, пісьменнік, паэт, журналіст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

27 траўня – 115 гадоў таму ў в. Макашы (цяпер Нясвіжскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Жылка (1900-1933), паэт, перакладчык, публіцыст.

29 траўня – 95 гадоў таму савецкімі ўладамі расстраляны Фабіян Шантыр (1887-1920), грамадска-дзяржаўны дзеяч, публіцыст, пісьменнік, перакладчык.

29 траўня – 45 гадоў таму ў Парыжы (Францыя) памёр Мікола Абрамчык (1903-1970), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Францыі, прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі (1947-1970 гг.).

30 траўня – год таму ў Мінску памёр беларускі паэт, дзяржаўны дзеяч, сябра Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Генадзь Бураўкін (1936-2014).

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў траўні: **Юрася Беленькага, Паўла Мажэйку, Барыса Стука, Міколу Яцкова** (Беларусь), **Лілею Плыгаўка** (Літва). Шчыра віншуем шаноўных імяніннікаў і зычым ім вясновага, сонечнага настрою, плёну ў працы і натхнення!

15 траўня спаўняецца 85 гадоў **Лёлі Міхалюк** (Вялікабрытанія), а 29 траўня 70-годдзе сустракае **Аляксей Кароль** (Беларусь). Нашым дарагім і паважаным юбілярам мы жадаем цеплыні і спагады, моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**Беларусы ў свеце**
№ 4 (156), красавік 2015

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава.
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская.
Наклад 250 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27